# Галоўнае праўленне Беларускага грамадска — культурнага таварыства

1. *Антонюк Уладзімір*
2. *Баршчэўскі Аляксандр*
3. *Баршчэўскі Васіль*
4. *Валкавыцкі Георгій*
5. *Вішанка Янка*
6. *Дзун Васіль*
7. *Іванюк Аляксандр*
8. *Каленік Мікалай*
9. *Касцюк Анатоль*
10. *Кіндзюк Янка*
11. *Краўчук Мікалай*
12. *Крэйза Сяргей*
13. *Лебядзінскі Мікалай*
14. *Майсеня Кастусь*
15. *Мартыновіч Анатоль*
16. *Масальскі Кастусь*
17. *Мікуць Янка*
18. *Палоцкі Янка*
19. *Паўлючук Ольга*
20. *Рагацэвіч Віктар*
21. *Радзіцкая Кіра*
22. *Раеўскі Уладзімір*
23. *Рафаловіч Аляксандр*
24. *Самоцік Мікалай*
25. *Семянюк Рыгор*
26. *Серадзінскі Мікалай*
27. *Склубоўскі Вінцук*
28. *Сохар Аляксандр*
29. *Станкевіч Уладзімір*
30. *Суліма Язэп*
31. *Сычэўскі Аляксей*
32. *Тарасевіч Мікалай*
33. *Філіпюк Сяргей*
34. *Харкевіч Аляксандр*
35. *Хмялеўскі Міхась*
36. *Храноўскі Аляксандр*
37. *Швед Віктар*
38. *Шыманюк Сямён*
39. *Юзвюк Уладзімір*

## Прэзідыум ГП БГКТ

1. *Склубоўскі Вінцук* — *старшыня*
2. *Самоцік Мікалай* — *намеснік старшыні*
3. *Юзвюк Уладзімір* — *сакратар*
4. *Баршчэўскі Аляксандр* — *член*
5. *Валкавыцкі Георгій* — *член*
6. *Майсеня Кастусь* — *член*
7. *Рафаловіч Аляксандр* — *член*
8. *Серадзінскі Мікалай* — *член*
9. *Хмялеўскі Міхась* — *член*

## Галоўная рэвізійная камісія БГКТ

1. *Галёнка Хведар* — *старшыня*

*Бялецкая Лідзія* — *намеснік старшыні*

*Кунах Янка* — *сакратар*

4. *Грэсь Янка* — *член*
5. *Кізевіч Піліп* — *член*




### СЛЯДЫ ГЕРОЙСТВА

У Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі разглядалася справа ўвекавечання гераічных подзвігаў людзей у гады вайны. Між іншым, будуць створаны філіялы музеяў у раёнах, дзе базавалі асноўныя сілы партызан. Будуць зроблены партрэты, а таксама помнікі змагароў супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

### РЭНТАБЕЛЬНАСЦЬ — ГЭТА ДАХОДНАСЦЬ

Цэнтральная беларуская газета «Звязда» апублікавала перадавы артыкул «Рэнтабельнасць — закон гаспадарання».

### У ВЁСЦЫ Я. КОЛАСА

На будынку школы ў вёсцы Люсіна, дзе калісьці працаваў настаўнікам Якуб Колас, адкрыта мемарыяльная дошка. Пад час урачыстага адкрыцця выступалі з успамінамі аб Коласе былыя яго вясковыя вучні.

### ПЕРШЫ

Першы ў Беларусі басейн для гідратэрмічнай апрацоўкі драўніны пабудаваны на фанерна-мэблевым камбінаце ў Рэчыцы.

# ПАСТАНОВЫ V-га З'ЕЗДА БГКТ

1. ГП БГКТ павінна быць інспіратарам грамадскіх і культурна-асветных пачынанняў у беларускім асяроддзі.

2. ГП БГКТ павінна наладзіць цесную сувязь з усімі арганізацыямі і ўстановамі, дзейнічаючымі на тэрыторыі, на якой жывуць беларусы, з мэтай супольнай працы сярод беларускага насельніцтва.

3. Працаваць над далейшым ростам колькасці членаў БГКТ.

4. ГП БГКТ павінна зрабіць захады ў адпаведных установах у справе забеспячэння беларускіх школ падручнікамі і іншымі навуковымі дапаможнікамі па беларускай мове.

5. Мабілізаваць беларускае насельніцтва да ўплачвання складчын на Фонд пабудовы школ і інтэрнатаў. Зрабіць захады адносна пабудовы новага школьнага будынка з інтэрнатам для беларускага ліцэя ў Гайнаўцы і інтэрната для беларускага ліцэя ў Бельску.

6. Зрабіць захады ў Міністэрстве вышэйшай адукацыі адносна стварэння ўмоў для здабыцця поўнай вышэйшай адукацыі абсальвентам беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі, так, каб распачаць навуку, магчыма, ад новага акадэмічнага года.

7. Звярнуць асаблівую ўвагу на асвету дарослых праз павелічэнне ліку дакладаў, гутарак, курсаў і г. д.

8. ГП БГКТ павінна зрабіць захады ў справе забеспячэння бібліятэк і клубаў беларускімі кнігамі і друкам.

9. ГП БГКТ павінна разбудоўваць рэгіянальны музей у Белавежы. З гэтай мэтай трэба надалей збіраць вартасныя экспанаты і перанесці музей у больш адпаведны будынак, а калі магчыма — пабудаваць новы.

10. Пераўтварыць навуковы гурток пры ГП БГКТ у Навуковае аб'яднанне, якое павінна заняцца распрацоўкай праблем беларускага насельніцтва ў Польшчы. Аб'яднанне трэба абяспечыць патрэбнымі фінансавымі сродкамі.

11. Стварыць у ГП БГКТ выдавецкі аддзел з мэтай пашырэння выдавецкай дзейнасці Таварыства.

12. Зрабіць захады адносна павелічэння перадач БГКТ у радыёвузлах з 15 да 30 мінут штотыднёва.

13. Намагацца павялічыць лік падпісчыкаў «Нівы».

14. Паклікаць пры аддзелах БГКТ клубы настаўнікаў — абсальвентаў беларускай філалогіі, якія будуць аналізаваць праграмы навучання беларускай мовы.

15. Аказаць значна большую, чым дагэтуль, арганізацыйна-матэрыяльную дапамогу мастацкаму самадзейнаму руху.

16. Смялей уводзіць новыя формы працы ў гуртках і аддзелах БГКТ. З гэтай мэтай актыў паасобных аддзелаў павінен абменьвацца вопытам.

17. Арганізацыйна і фінансава больш усамастойніць аддзелы БГКТ.




### ВАЖНЫ КРОК

Нью-Йорк. Генеральны сакратар ААН У Тан у пісьмах прэм'ер-міністру Індыі пані Індзіры Гандзі і прэзідэнту Пакістана Махамеду Айюб Хану выказаў задавальненне адводам індыйскіх і пакістанскіх войск на пазіцыі, якія яны займалі да 5 жніўня 1965 года. У Тан расцэньвае гэты адвод, ажыццёўлены, як падкрэсліваецца ў пісьмах, у адпаведнасці з рэзалюцыямі Савета Бяспекі і Ташкенцкім пагадненнем, як «важны крок ў напрамку міру».

Генеральны сакратар выказвае надзею, што працэс прымірэння, пачаты так добра, будзе працягвацца з тым, каб вырашыць рознагалоссі, якія засталіся паміж Індыяй і Пакістанам, і каб абедзве краіны жылі адна з адной у міры і дружбе.

### АД ІМЯ НАРОДАЎ АЗІІ І АФРЫКІ

Каір. Ад імя народаў двух кантынентаў мы асуджаем так званы ісламскі пакт як новую спробу імперыялістаў адрадзіць багдадскі пакт, гаворыцца ў апублікаванай тут заяве пастаяннага сакратарыята Арганізацыі салідарнасці народаў Азіі і Афрыкі.

У заяве падкрэсліваецца цвёрдая воля народаў Азіі і Афрыкі выканаць рэзалюцыі канферэнцый салідарнасці, якія заклікаюць да барацьбы супраць змоў імперыялістычных колаў і іх наймітаў.

### У СЕНАЦЕ ЗША

Вашынгтон. Сенат ЗША прыняў прапанову не адмяняць рэзалюцыю ад 10 жніўня 1964 года, якая дае прэзідэнту Джонсану права неабмежавана выкарыстоўваць узброеныя сілы ЗША для ваенных дзеянняў у Паўднёва-Усходняй Азіі.

За гэту прапанову прагаласавалі 92 сенатары, супраць —5. Сярод галасаваўшых супраць былі сенатары-дэмакраты: Морзе, Грунінг, Фулбрайт, Макарці і Янг. Сенатары Лаушэ, Чэрч і Брустэр не прымалі ўдзелу ў галасаванні.

### РАСТУЦЬ РАДЫ КАМУНІСТАЎ У ІТАЛІІ

Рым. На працягу штогодняй перарэгістрацыі членаў Італьянскай камуністычнай партыі і абмену партыйных білетаў у рады ІКП уступілі 96 тысяч новых членаў, паведамляе газета «Уніта».

Многія юнакі і дзяўчаты, указвае газета, уступілі таксама ў рады Італьянскай камуністычнай федэрацыі моладзі.

### ЗАКЛІК ФРАНЦУЗСКАГА ЎРАДА

Парыж. Французскі ўрад заклікаў Паўднёвую Карэю перагледзець прынятае ёю рашэнне адправіць у В'етнам дадаткова 20 тыс. салдат, паведамляе карэспандэнт агенцтва Франс Прэс з Сеула.

Паўднёвакарэйскаму паслу ў Парыжы, указвае агенцтва, было заяўлена, што адпраўка паўднёвакарэйскіх войск парушае жэнеўскія пагадненні і наўрад ці будзе садзейнічаць мірнаму ўрэгуляванню ў В'етнаме.

*«Завяшчанне Гітлера» (6)*

# ЯПОНІЯ

І яшчэ аб адным саюзніку фашысцкай Германіі гаворыцца ў «завяшчанні» — аб імперыялістычнай Японіі. Гітлер вельмі стрымана і немнагаслоўна характарызуе палітыку Японіі. У адрозненне ад Іспаніі і Італіі фюрэр рассыпае ў адрас Японіі празмерныя пахвалы. Аднак з запісу, зробленага 18 лютага 1945 года, высвятляецца, што і японскі саюзнік не апраўдаў спадзяванняў Гітлера: «Паколькі ўступленне Злучаных Штатаў у вайну было непазбежнае, нам пашанцавала мець на нашым баку такога каштоўнага саюзніка, як Японія... Для нас Японія назаўсёды застанецца саюзніцай і сябрам. Гэта вайна навучыць нас цаніць і паважаць яе больш, чым каго-небудзь яшчэ. Вайна прымусіць нас умацоўваць вузы, што звязваюць абедзве краіны. Вядома, шкада, што японцы не ўступілі ў вайну з Расіяй адначасова з намі. Калі б яны зрабілі гэта, сталінскія арміі цяпер не акружылі б Браслаў і не ўварваліся б у Будапешт. Нам трэба было б ліквідаваць бальшавізм да надыходу зімы, і Рузвельт павагаўся б перад перспектывай — мець двух такіх моцных праціўнікаў, як мы з Японіяй. Таксама я шкадую, што Японія не захапіла Сінгапур у пачатку 1940 года, неадкладна следам за разгромам Францыі. Злучаныя Штаты былі тады напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў і палічылі б немагчымым умяшацца. Тады гэта з'явілася б адным з паваротных пунктаў вайны.

Нягледзячы на ўсё, мы і японцы верна будзем стаяць побач. Альбо мы атрымаем верх, альбо загінем разам».

# X год „НІВЫ"

### НАМ ПІШУЦЬ

*Towarzysz J. Wołkowycki, Redaktor Naczelny Tyg. „Niwa".*

*W związku z jubileuszem X-lecia „Niwy" — w imieniu Zarządu RSW „Prasa" i własnym — przesyłam Wam Towarzyszu Redaktorze oraz na Wasze ręce całemu zespołowi redakcyjnemu serdeczne gratulacje i słowa uznania za Waszą wieloletnią ofiarną pracę.*

*Proszę przyjąć także szczere życzenia szczęścia i pomyślności w życiu osobistym.*

*Tadeusz Galiński*
*Prezes RSW „Prasa"*

*

Дарагія таварышы, горача віншуем з дзесяцігоддзем. Жадаем плённай працы на карысць развіцця сацыялістычнага грамадства.

Супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору БССР.

*

Паважаныя таварышы, дазвольце мне павіншаваць Вас з 10-годдзем з дня выхаду ў свет першага нумару газеты «Ніва».

Карыстаюся выпадкам, каб пажадаць Вам і Вашым блізкім добрага здароўя, поспехаў у працы і асабістага шчасця ў жыцці.

З глыбокай пашанай

**Г. Палуян**
Навуковы супрацоўнік Акадэміі навук БССР

*

Рэдактару Валкавыцкаму. У новым дзесяцігоддзі — Вашай газеце, яе супрацоўнікам, актыву — жадае новых дасягненняў і асабістага шчасця Ваш сталы мінскі чытач Васіль Талстой.

*

Паважаная рэдакцыя газеты «Ніва»! Віншую Вас і сяброў штотыднёвіка з слаўным юбілеем, 10-годдзем гожай жыццедзейнасці!

Ад усяго сэрца жадаю плёну ў далейшай удзячнай працы. Выдатнага Вам здароўя і шчасця ў жыцці.

Ваш віцебскі сябра
М. Плавінскі

*

Усяму калектыву маіх колішніх сябраў і сяброўак па прафесіі шлю найлепшыя прывітанні і пажаданні на наступныя гады — хай самыя плённыя і выдатныя ў публіцыстычнай дзейнасці!

**Мацей Канапацкі**
Сопат

*Наша акцыя*

### КНІЖКІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў ГАРАДКУ

Падарунак *Васіля Дзуна* з Гайнаўкі: Н. Носаў — «Віця Малееў у школе і дома»; Ш. Ядвігін — «Апавяданні»; М. Лужанін — «Выбраныя творы» т. І і ІІ; В. Вітка — «Паверка»; Л. Жариков — «Повесть о суровом друге»; Б. Емельянов — «Рассказы о Гайдаре»; Н. Венгров — «Жизнь Николая Островского»; В. Померанцев — «Дочь Букиниста»; В. Баныкин — «Рассказы о Чапаеве»; В. Очеретин — «Я твой, Родина»; И. Кудревич — «Агротехника выращивания высоких урожаев овощей в парниках и теплицах»; Лю Бай-Юй — «Заря впереди»; A. W. Wysocki — «Duce, aresztuję pana!».



З'езд вяло чацвёра старшынь. Першым быў заслужаны дзеяч БГКТ былы грамадавец Піліп Кізевіч (той самы, які 10 год таму вёў І-шы арганізацыйны з'езд нашага Таварыства).



Танцуе балетная група гарадскога аддзела ў Беластоку.

Фота: Сяргей Грынявіцкі

# У З'ЕЗД БГКТ у ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



Прыгожыя кветкі для прэзідыума з'езда прынесла дэлегацыя школьнай моладзі беларускага ліцэя ў Бельску.



Дэлегатам спадабалася выступленне.




У час перапынку ў дэбатах прыемна было паглядзець у суседняй зале выстаўку аб дзейнасці БГКТ.



Выступае хор Бельскага аддзела БГКТ.



Выступаюць наймалодшыя — курсанты курса акардэаністаў, які ўжо некалькі год працуе пры гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку.

## У пошуках неспакойных

# АДКРЫЦЦЁ РЫБАЛАЎ

Праз Рыбалы бяжыць шаша Беласток — Бельск, пралятаюць сотні таксі розных марак і колераў, у абодва бакі ад'язджае дзесятак аўтобусаў у дзень. Гэтай рухлівасцю стараюся вытлумачыць сабе дзіўны факт: вялікая вёска, а не з'яўляецца, як мы па-старому звыклі казаць, культурным цэнтрам аколіцы. Рыбалы з'яўляюцца, дзякуючы свайму палажэнню, бліжэйшыя звычаям і спосабу жыцця горада, чым якая-небудзь іншая вёска, дзе «квітнее культурнае жыццё». І нічога на гэта не параім. Вымушаны правесці пэўную рэвізію сваіх поглядаў на сучасную вёску. Будзе добра, калі па-новаму глянем на Рыбалы — вёску ўжо не тую.

Не задумоўваючыся, а ідучы следам працёртых догмаў, трэба б Рыбалы моцна скрытыкаваць. Што няма гуртка, што слабы ЗМВ, што няма святліцы, што, урэшце, не вядзецца «культурнае жыццё». У такім выпадку не трэба надта думаць. Ёсць многа выдуманых сказаў і акрэсленняў, каб скрытыкаваць. Ці, аднак, хапіла б гэтага? Ці адкрыла б дарогу да культуры? Якой?

Справядлівасць тут аддамо Рыбалам: пару год назад быў гурток у вёсцы. Была гэта тады, як пры школе адзін-адзіны раз арганізавана СПР з 18-ці асоб вясковай моладзі. Драмгурток паставіў пару камедыек, нават у іншыя вёскі з імі выязджаў. Звяртаю тваю ўвагу, чытач, у гэтым месцы не на драмгурток, а на СПР, ад якога пачалося. Школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, якой кіраваў *Васіль Панасюк*, сама па форме вельмі сучасная, разбудзіла сучасныя жаданні. Прозвішчы яе выпускнікоў пакладуцца ў няпісаную гісторыю вёскі: *Віктар Вішнеўскі, Уладзімір Бручко, Лена Бручко, Віктар Тамашук, Ліда Філіпюк, Ніна Максімюк, Лявон Федарук, Віктар Міранюк*. Большасць з іх вучыцца завочна ў тэхнікумах. Нават хлопцы, якія пайшлі ў войска, не перарываюць навуку. Гэтая школа зрабіла паварот, адкрыла новыя гарызонты маладым. (Цяпер, кажуць, ніхто ў Рыбалах не дэманструецца п'янствам).

На пытанне, чаму цяпер не арганізуецца СПР, кіраўнік школы падае зноў, як жа ж сучасны, прыклад: у мінулым школьным годзе на 13 выпускнікоў сёмага класа засталося ў вёсцы 4. Іншыя рассыпаліся па сярэдніх школах, пераважна прафесіянальных, асабліва сельскагаспадарчага профілю, як Тэхнікум рахунковасці рольнай у Бельску.

Да школ рыбалаўцы даязджаюць, выкарыстоўваючы спрыяльнае геаграфічнае палажэнне вёскі. Вучацца і, зразумела, не могуць мець замнога часу займацца аматарствам, гуляць у драмгуртку і няпэўнымі вартасцямі камедый забаўляць людзей. Але ўплыў на сваю вёску моладзь мае, больш чым на першы погляд здаецца. Жальба тых, хто кажа, што ў Рыбалах нічога не дзеецца, не выдаецца слушным. Вёска адкрыла дарогу да новых форм і іх больш ахвотна трымае. Гэтым тлумачу і небывалае зацікаўленне тэлевізарам, які куплены па ініцыятыве моладзі і часткова за яе грошы. Заінсталяваны ў адным з пакояў ГРН побач бібліятэчнага. У тэлевізійнай зале стаіць адно паломанае крэсла і адна счарнелая лаўка. Сакратар Прэз. ГРН *Іван Мінкевіч* паказвае паабціраныя сцены. Пару месяцаў таму ГРН зрабіў тут рамонт. Адразу нібы сапраўды хочацца абурацца. Але рыбалаўцы цiснуцца, пхаюцца да тэлевізара. Пасля зімовых парадкаў на гаспадарках валяць сюды. Вопраткамі труць сцены, нагамі падлогу. Не наракаюць, што сядзець няма дзе. Кожны хоча паглядзець, а калі ўсе стаяць, больш змесціцца.

Тэлевізійная зала не мае штатнага кіраўніка. Усе ведаюць, што тэлевізарам апякуецца моладзь на чале з аграномам *Аляксандрам Наумюком* і *Аляксандрам Свірыдзюком*, які трымае ключы.

Толькі што а гадзіне 10 *Валя Андрэюк* адкрыла бібліятэку і ўжо з'явіліся па кніжкі: некалькі школьнікаў і *Васіль Леснік* з двума тоўстымі тамамі. Запісваю загалоўкі: «По тонкому льду» і «Живые и мёртвые». Валя ведае, што другая вайна папулярная сярод старэйшых. Маладых цягне да сучаснай літаратуры. І тут зноў правільнасць грамадскага развіцця сучаснай вёскі.

*ВЕРА ЛЕЎЧУК*



Барысаўскія хаты.

# Барысаўская пяцігодка

(Працяг са стар. 1)

Зараз сяляне з Барысаўкі пазналі вартасць пасляжніўнага ворыва. Заворваюць яны свае іржышчы часта, калі яшчэ снапы стаяць на полі. Каровы маюць значна лепшы корм, зрэшты, пры добрым ураджаі няма чаго ім тут грызці: трава і пустазелле не расце.

Зараз у Барысаўцы ўся зямля выкарыстана да максімум. Больш сеецца лубіну і сырадэлі, паявілася раней амаль невядомая канюшына. Канюшыну сяляне сеюць не толькі на корм, але і прадаюць для цэнтралі насеннай, што прыносіць сялянам вялікі даход.

Радыкальнае павышэнне колькасці малака ў Барысаўцы стварыла патрэбу будовы ў вёсцы злеўні малака. Пабудавана яе ў 1965 годзе супольнымі намаганнямі млечарскай спулдзельні, сельскагаспадарчага гуртка і ўсіх барысаўскіх сялян. Усё гэта не абазначае, што сяляне Барысаўкі поўнасцю ўсім задаволены і няма ў іх клопатаў ці жаданняў палепшыць сваё жыццё. Так, напрыклад, і сельскагаспадарчы гурток, і партыйная арганізацыя Барысаўкі ўжо ад некалькіх гадоў імкнецца правесці меліярацыю сваіх сенажацяў, члены сельскагаспадарчага гуртка стараюцца, пакуль што безрэзультатна, закупіць так патрэбны ім цяпер трактар.

Узрост агульнага жыццёвага ўзроўню гаспадароў Барысаўкі стварыў запатрабаванні на культурныя вартасці. У Барысаўцы захацелі мець свой тэлевізар. Гаспадары добраахвотна скlaліся па 30 зл. ад хаты, рэшту далажыла Павятовае праўленне ЗМВ і зараз, калі толькі звечарэе, сяляне спяшаюць у школу глядаць тэлевізійную праграму.

**Ул. Паўлючук**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# Больш мяшанак — больш мяса

Худое мяса — гэта бялкі Мы ямо яго штодзень, бо такая ежа мае ў сабе шмат высакаякасных бялкоў, патрэбных на будову арганізма і падтрымоўвання жыццёвых працэсаў.

А пакольні мяса мае ў сабе шмат бялкоў, дык іменна гэтага, а не іншага рэчыва павінна быць у кармах адпаведная колькасць. Знойдзем яго ў збожжавых мяшанках. Калі ў кармленні кароў збожжавыя мяшанкі адыгрываюць толькі дапаможную ролю, дык у кармленні свіней становяцца галоўным кормам (побач з бульбай). Таму збожжавыя мяшанкі для свіней маюць зусім іншы склад. Сярод дадаткаў, якіх не спаткаем у мяшанках для кароў, трэба назваць рыбную і мяса-касцяную муку, большы асартымент вітамінаў, шмат мінеральных рэчываў, а таксама антыбіётык «Oxyterramycyna».

Для свіней ёсць мяшанкі «М-Век», «Р», «Бекон», «Т», «Standard I», «Standard II» і «Standard III». Паміж гэтымі мяшанкамі ёсць пэўная розніца. Залежыць ад таго, якога ўзросту свінні і на што гадуюцца. Гэта зразумела: адны патрэбы мае малады, хутка рустучы арганізм, а зусім іншыя свінні, прызначаныя на бекон.

«М-Век» — гэта мяшанка для паросных свіней і кормячых свінаматак. Яна мае ў сабе 0,95 аўсяных адзінак і 150 гр. бялкоў (у тым 35 гр. жывёльных бялкоў). У склад мяшанак уваходзяць пшанічнае і жытняе вотруб'е, рыбная і касцяная мука, дробленае зерне алеістых, кармавыя дрожджы, мука з матыльковых раслін, мінеральныя кармы, вітаміны А, Д, Е і групы В.

Мяшанку «Р» даем парасятам пасля 2—3 тыдняў ад нараджэння і ад той пары, пакуль не дасягнуць вагі 15 кг. Мяшанка гэтая мае вартасць адной кармавой адзінкі і мае ў сабе 180 гр. бялкоў (70 гр. жывёльных). Апрача таго ў яе склад уваходзіць антыбіётык «Oxyterramycyna».

Беластоцкіх сялян менш цікавіць мяшанка «Бекон», якая прызначаецца, як гаворыць сама назва, для кормнікаў на бекон.

Найбольшай папулярнасцю карыстаецца мяшанка «Т», якая прымяняецца пры мяса-саланінавым адкорме. Кілаграм яе мае ў сабе адну аўсяную адзінку і 140 гр. бялкоў (у тым ліку 24 гр. жывёльных).

Спецыяльным відам мяшанак з'яўляецца ўсё больш модныя ў нас (пакуль што ў дзяржаўных гаспадарках) прамысловыя кармы, падаваныя з аўтаматаў. Яны маюць у сваім складзе ўсе патрэбныя рэчывы. Даем іх па чарзе. Спачатку «Standard I» — да 50 кг. вагі кормніка, «Standard II» — да 70 кг і «Standard III» — да звыш 70 кг. Першая мае ў сабе 140 гр. бялкоў, другая — 115 гр., трэцяя — 100 (жывёльных адпаведна ад 20 да 7 гр.). Замест бульбы на фабрыках адразу дамешваюцца бульбяныя платкі. Роля чалавека пры такім кармленні зводзіцца да напаўнення жолаба і падання вады.

Кармавая прамысловасць выпусціла на рынак таксама канцэнтрат пад назвай «Prowit». Ён вельмі просты ў карыстанні і прызначаецца на мяшанне з вотруб'ем і платкамі (0.98 аўсяных адзінак і 390 гр. бялкоў).

**Інж. М. Сухажэбрскі**



# ЗА КУДЗЕЛЯЙ

— Здзіўляецеся, што я яшчэ сяджу за кудзеляй?

Гэта па старой прывычцы. Зімовыя вечары доўгія, без работы сядзець жа не буду. Бывала, за маёй маладосці па вечарынках з кудзеляй хадзілі. А цяпер маладыя бягуць у нейкія там святліцы ці клубы, ад тэлевізараў вачэй не адрываюць. А воўны на цёплыя шкарпэткі ці добры світэр хто напрадзе? А мяшкі з чаго пашыеш, калі валакна не напрадзеш? Усё цяпер робяць, нават ракеты, як чула, на месяц высылаюць, а нябось, звычайнага моцнага мяшка няма дзе купіць. Яго ж з эляны не пашыеш, стылон таксама не надаецца. Трэба самому прасці і ткаць, як даўней бывала. Ды і цяпер, калі за кудзеляй чалавек варушыцца. Кніжкі і газеты чытаць, кажаце? Не прызвычаеная я, вочы баляць, ды і вучыць нас старых не было каму.

Безупыннае бурчэнне калаўротка і жылістыя пальцы, што спраўна скубуць ваўняную кудзелю, доўга яшчэ асталіся ў маёй памяці.

*В. Рудчык*
*Фота аўтара*

# КЛУБ У ТЫМЯНЦЫ

Тымянская святліца мае доўгую гісторыю. Існуе яна ад першых гадоў пасля вызвалення. Але доўга не было тут добрага гаспадара. Даволі прасторная зала стаяла пустай, заўсёды засмечанай. Цяпер у тымянскай святліцы (Сямяціцкі павет) пасяліўся вясковы клуб «Руху». Залу адрамантавалі, паставілі столікі, крэслы, на століках попельніцы і флаконы з галінкамі ёлачкі, а на адмаляваных сценах — рэпрадукцыі малюнкаў выдатных майстраў жывапіснага мастацтва. У клубе можна паслухаць навейшыя мелодыі, пагуляць у шашкі і шахматы, пачытаць шматлікія часопісы, напіцца чаю і кавы. Адна толькі бяда, што зімой тут халаднавата. Прыходзіцца тады (глядзі здымак) сядзець за клубным столікам у кажусе.

*Тэкст і фота В. Р.*



## ЖЫЦЬ ПА-НОВАМУ

Вёска Рэдуты, што на Бельшчыне, вялікая. Налічваецца ў ёй больш ста гаспадароў. Дамы тут у большасці драўляныя, але апошнім часам пачынаюць паяўляцца мураваныя. І вось у 1963 годзе быў арганізаваны ў Рэдутах сельскагаспадарчы гурток. Старшынёю выбраны Уладзімір Троц. У мінулым годзе на палях у Рэдутах загрукатаў трактар. Зімою жыхары вёскі займаюцца вырабам саламяных каробак. Тут амаль кожная сям'я штомесячна вырабляе па 70—80 штук каробак. Адна каробка каштуе 120 зл. Палічыце! Некаторыя жыхары за гэтыя некалькі год зарабілі на каробках па 100 тысяч зл. Каробкі гэтыя высылаюцца ва многія краіны свету. У вёсцы чатыры гаспадары маюць тэлевізары. Ёсць свая новая крама. Адным словам, Рэдуты пачынаюць жыць па-новаму.

*Мікалай Панфілюк*

З ГІСТОРЫІ ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІХ ЛІТАРАТУРНЫХ СУВЯЗЕЙ

# НЕБЯСПЕЧНАЯ КНІГА

Трагічны аказаўся лёс першага перакладу на беларускую мову вядомай паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэуш». З'яўляючыся, па сутнасці, першым перакладам паэмы на славянскую мову, апярэджваючы з'яўленне ў друку пераклады на рускую, чэшскую і сербскую мовы, беларускі пераклад «Пана Тадэуша» хоць і выйшаў у свет, на продаж у кнігарні не паступіў. Вось кароткая гісторыя смутнага лёсу гэтай цікавай кніжкі.

Яе перакладчык Вінцэнты Дунін-Марцінкевіч належаў да перадавых прадстаўнікоў беларускага культурнага асяроддзя XIX стагоддзя.

Добра валодаючы польскай мовай і ведаючы польскае асяроддзе, В. Дунін-Марцінкевіч вельмі цікавіўся навінкамі польскай літаратуры. Адам Міцкевіч аказаў на яго вялікі ўплыў. Зразумелае таму зацікаўленне пісьменніка да «Пана Тадэуша». Спробы выдаць беларускі пераклад «Пана Тадэуша» адразу ж сустрэлі вострае супраціўленне з боку царскіх улад. Многія творы В. Дунін-Марцінкевіч друкаваў у Кракаве і ў Познані. Аднак да таго часу, калі быў скончаны пераклад «Пана Тадэуша», і без таго слабыя кантакты з заграніцай былі спынены і аб выданні «Пана Тадэуша» па-за Расіяй не магло быць нават мовы. А царская цэнзура сістэматычна перашкаджала выданню кніг і перыядычных выданняў на «мужыцкім дыялекце», як з пагардай царскія ўраднікі называлі беларускую мову. Яшчэ жывым было водгулле польскага паўстанцкага руху. І для царскіх ураднікаў асабліва страшнай была думка аб магчымым беларуска-польскім збліжэнні.

Мінская цэнзура тройчы адказала адмовай на просьбу В. Дуніна-Марцінкевіча дазволіць яму апублікаваць свой пераклад. Адмова мела прынцыповы характар. Тады, паслухаўшы рады пецярбургскіх сяброў, Дунін-Марцінкевіч зрабіў спробу выдаць сваю кнігу ў Вільне. Тут царскія ўлады аказаліся менш пільнымі, і дазвол на выданне кнігі быў дадзены.

З цяжкасцю ўдалося сабраць неабходныя сродкі, кніга пайшла ў набор, атрымала штэмпель цэнзурнага ведамства і сышла з друкарскага станка. Здавалася б, усе цяжкасці ўжо засталіся ззаду. У прадмове да перакладу «Пана Тадэуша» на беларускую мову В. Дунін-Марцінкевіч пісаў: «...Задумваўся я над тым, каб простаму нашаму люду, жывучаму ў лясной глушы, зрабіць даступнай у кожнай хаце гэту паэму».

Калі аўтар выслаў першыя кнігі, толькі што атрыманыя ад пераплётчыка, сваім кракаўскім сябрам, ён не падазраваў, што гэтыя экземпляры будуць адзінымі, якія ўратуюцца ад знішчэння. Па спецыяльнаму загаду губернатарскай канцылярыі кніга была канфіскавана, няшчасны цэнзар зняты з пасады, кніга забрана ад пераплётчыка, як «бунтаўшчыцкая і небяспечная» была перавезена двума вазамі ў ахоўнае аддзяленне паліцыі і спалена. Амаль трыццаць год кніга заставалася пад забаронай. Толькі ў 1908 годзе ў Пецярбургу быў надрукаваны пераклад В. Дуніна-Марцінкевіча, але і той няпоўны. Для гэтага выдання быў выкарыстаны экземпляр віленскага выдання, цудам уцалеўшага ў Кракаве.

Аднак пецярбургскае выданне таксама не паспела разысціся поўнасцю. Частка тыража (каля 500 экз.) была канфіскавана паліцыяй і знішчана. Але дзве тысячы экземпляраў усё ж пайшлі ў свет...

**П. ЮР'ЕЎ**




# ПАЎТОРНА Ў АНГЛІІ

Паглядзіце на гэтыя вось здымкі. Гэта дзве фатаграфіі аднаго чалавека — лётчыка Герарда Фрыдрыха Баркхорна. Летам і восенню 1940 года наведаў ён Англію і прывозіў ёй у падарунку... бомбы. 1790 гітлераўскіх самалётаў два з палавінай месяца без перапынку бамбілі англійскія гарады і вёскі. За геройства праяўленае ў гэтым злачынстве Г. Ф. Баркхорн атрымаў самы вышэйшы ваенны гітлераўскі ордэн — *жалезны крыж*.

Пасля 25-ці год Герард Фрыдрык Баркхорн зноў наведаў Англію. *Цяпер ён палкоўнік заходнегерманскай ваеннай авіяцыі.* Разам з англійскімі лётчыкамі праводзіў ён выпрабаванні новага самалёта. Ці ж бы некаторым англічанам адняло памяць? На шчасце прыпомніла ім гэта лонданская газета «Обсэрвэр». (вр)

## Сон у саляной ванне

Усім вядома, што сон — гэта перад усім адпачынак для нервовай сістэмы. Факт, што для арганізма чалавека неадпачынак — адзін з галоўных козыраў апалагетаў кібернетычных аўтаматаў. «Вось, — гавораць яны, — яўная перавага машын над чалавекам». Сапраўды 8-мігадзінная прафілактыка вельмі б'е па «балансе» часу людзей. Ці нельга паменшыць гэтай страты часу?

Не так даўно ў друку паявілася інфармацыя аб доследах вучоных з так званымі «салянымі ваннамі». Істота гэтых доследаў зводзіцца да наступнага. Вучоныя звярнулі ўвагу, што нашыя далёкія продкі — земнаводныя — трацілі на сон многа меншую частку сутак чым чалавек. У чым справа? Можа сон у салянным растворы, якім з'яўляюцца наогул моры і акіяны, больш глыбокі і спакойны, чым сон на пярынах і падушках? Вопыты пацвердзілі: чалавек пакладзены ў саляную ванну з канцэнтрацыяй солі роўнай марской вадзе, вельмі добра высыпляецца за 2—3 гадзіны.

Другі прыклад можа паказацца чыстай фантазіяй. Аказваецца, што ёсць людзі, якія цэлымі гадамі зусім не спяць!

Медыцынскім цудам лекары ўсяго свету называюць 77-гадовага шведа Олафа Эрыксона. Олаф не спіць ужо 46 год. За гэты час ён ані разу не пазяхнуў. У 1919 годзе Эрыксон перанёс цяжкую форму грыпу. З гэтага часу Олаф не можа заснуць. Ён лягае ў пасцель, разглядае столь і ёсць бадзёрым да самай раніцы.

Ёсць чалавек без сну і ў Лондане. Ён мае невялічкі галантэрэйны склеп на акраіне горада. Ад ліпеньскай ночы 1941 года Сідней Эдвард ні на мінуту не заснуў. У гэту ноч, у час паветранага налёту, загінула яго жонка. Сідней быў сведкам гэтай трагедыі і шок назаўсёды пазбавіў яго сну.

«Я не бачу розніцы між днём і ноччу, — гаворыць Эдвард. — Мне гэта бясконцы ланцуг пастаянна змяняўшыхся гадзін. Пакуль ёсць святло, я магу бараніцца з нядугаю. Але калі яно гасне, мне пачынаецца мука. Я застаюся зусім адзін і адчуваю сябе такім бязрадасным і бяссільным, як пацярпеўшы караблекрушэнне ў адкрытым моры». (к)

## „Дарагія“ дзяўчаты

Жаніцьба ў Афрыцы шмат каштуе, часамі настолькі дарагая, што многія не могуць доўгі час ажаніцца. Справа ў тым, што маладую жонку трэба сабе «купіць». Яе «цана» залежыць ад таго, як яна прыгожая, якія мае таленты, якое маюць значэнне яе бацькі і г. д.

Апошнім часам у Афрыцы штораз часцей выбухаюць проста дэманстрацыі мужчын супроць такога звычаю «куплі» жонкі. Напрыклад, у Нігерыі моладзь наладзіла спецыяльную сустрэчу, у час якой востра крытыкавалася цяперашнюю працэдуру жаніцьбы. Ухвалена, што плата за жонку не павінна перавышаць 30 фунт-стэрлінгаў. Невядома толькі, як рэагавалі на такую ўхвалу дзяўчаты, але хіба яны таксама хацелі б быць «дарагімі» ў іншым сэнсе, не за грошы...

У Афрыцы так ужо павялося, што мець хлопца — гэта няшчасце, а калі родзіцца дзяўчына, усе вельмі цешацца, бо дзяўчына — гэта маёнтак. За яе можна будзе пацягнуць някепскія грошы ад таго, хто дабіваецца жаніцьбы. (а-ся)

**БІРМА**



На здымку: вуліца ў новым квартале Рангуна.
Фота: ЦАФ

Выпадак у Ціхім акіяне

## „Дэльфіны адказваюць“ людзям

Дэльфіны даўно цікавяць чалавека. Цямлівасць, дабрадушнасць, гуллівасць і кемлівасць — усё гэта прыцягвае да іх увагу даследчыкаў. Даказана, што гэтыя марскія жывёлы на сваёй дэльфіннай «мове» могуць размаўляць паміж сабой, што яны любяць пяшчотныя мелодыі і не цярпяць какафанічных гукаў...

Вось адзін цікавы выпадак, што адбыўся ў Ціхім акіяне. Рыбалавецкі траўлер «Алазея» ў параўнальна ціхае надвор'е перасякаў Уруп. Да судна прыладкаваліся 15 дэльфінаў. Яны плылі то справа, то злева ад судна, гулялі пад самым фарштэўнем. У іх, на першы погляд, беспарадкавай гульні можна было прыкмеціць строгі рытм.

Калі чародка абагнала судна, рыбакі ўспомнілі, што некаторых марскіх жывёл можна прывабіць свістам. Усе члены каманды пачалі свістаць, спрабуючы такім чынам прынадзіць жывёл бліжэй.

Свісталі так, як свішчуць клічучы сабак. Але вось усе пачулі нейкія пабочныя гукі. Людзі пераглянуліся, прыслухаліся... І пачулі, што гучны свіст ідзе... з-пад вады! Дэльфіны адказвалі людзям! Нястройны, але непаўторны хор падводных спевакоў нібы развучваў незнаёмую яму мелодыю. Гэта працягвалася каля дзесяці мінут...

Пра гэты выпадак на старонках газеты «Камчатская правда» расказаў навуковы супрацоўнік Камчацкага аддзялення Ціхаакіянскага навукова-даследчага інстытута рыбнай гаспадаркі і акіянаграфіі А. Нікалаеў.

Цяпер я зусім шчыра перакананы, піша аўтар, што выпадак з гамераўскім Адысеем, які быў зачараваны цудоўным спяваннем легендарных сірэн, мог быць у даўнія часы, а казачнымі паланянкамі — паўдзевамі-паўрыбамі былі не хто іншыя, як цудадзеі дэльфіны. Хутчэй за ўсё, гісторыя, падобная да нашай, аднойчы здарылася са старажытнымі мараплавацелямі. З таго часу, абрастаючы выдумкамі, яна ператварылася, нарэшце, у легенду, увайшоўшы ў скарбніцу старажытнагрэчаскага эпасу.

Адн.

## РЭХАЗОНД УРАТАВАЎ ВОКА



Амерыканскі хірург з Вашынгтона правёў складаную аперацыю вока пры дапамозе ўльтрагукавага зонда. Тым самым уратаваў ён зрок хлопцу, які, забаўляючыся «сляпым» патронам, ад яго ўзрыву параніў вока асколкам масенжу.

Калі б гэта быў асколак жалезны, лекары змаглі б яго дастаць пры дапамозе магніту. Але паколькі гэта каляровы метал, медыцына дасюль была бяссільнай.

Хірург з Вашынгтона пастанавіў выкарыстаць доследы з ультрагукавым зондам, якія дагэтуль праводзіліся толькі на звярах, што дазваляла акрэсліць месца чужога цела з дакладнасцю да аднаго міліметра. Пасля першага вонкавага акрэслення ўльтрагукам месца знаходжання асколка, пачалася аперацыя. Апускаемы ўсё глыбей рэхазонд дакладна паказваў месца знаходжання асколка ў воку. У выніку таго маленькія шчыпчыкі хірурга вынялі з вока масенжную крушынку.

Малы пацыент не страціў зроку, хоць вымушаны насіць спецыяльныя акуляры. Новы метад лакалізацыі чужых цел у воку пры дапамозе ўльтрагукаў можа прынесці медыцыне вялікія паслугі. (ака)

• аляксей карпюк •

## ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

Ля Зубкоў цячэ рэчка. Яе перасякае чыгунка. Невялічкі мост вартуюць немцы. Салдатаў тут ніхто не трывожыў, яны жывуць сабе як дачнікі паблізу на будцы. У абед вараць гарохавы суп, гуляш, пудзінг, рана і вечарам — чорную каву, заядаюць хлебам з маслам ды ў адпрасаваных на кант нагавіцах акуратна ходзяць за чатырыста метраў к мосту на варту. На гэты адрэзак пуці амтскамісар сялян не ставіць, спадзяецца на салдат. Салдаты на трэцім годзе такой службы лічаць сябе ўжо толькі вартаўнікамі моста.

— І так выйшла, што чатырохсотметравы кавалак чыгункі не сцеражэ ніхто! — тлумачыць па дарозе Сашка.

Кардаш ведае, ён прыйшоў да нас нядаўна з чыгункі, быў сувязістам, у будках і бункерах стаўляў тэлефоны.

Прыходзім пад Зубкі, днём высыпаемся добра ў кустах. Вечарам падкрадваемся пад будку. Сашка кулямётам блакіруе нас ад вартаўнікоў, я з сястрой паўзу да рэек. Узрывацеля няма, мусім камбінаваць. Яшчэ днём у мяшок з толам ушылі гранату «лімонку», да канца яе прывязалі сто метраў кабелю. На пуці ціха, пуста. Таямніча гудуць правады. На будцы звякнулі пару разоў кацялкі. Манатонна стракочуць цвыркуны. Можна пачынаць! Прыкладваю з сярэдзіны да рэйкі мяшок, шапчу:

198

— Люба, разматвай!

Трымаю мяшок, дзяўчына цягне ў поле кабель. Па дарозе перадаецца кожны яе рух, магу нават сказаць, калі сястра спатыкаецца, падае. Вось кабель перастае ўздрыгваць, замірае. Два разы ім сігналіць — гатова! Адгінаю ў кальцы ад гранаты алюмініевыя вусікі, па нітцы кабеля знаходжу сястру, падаю побач у баразну. Такі метад узрыву ў партызан называецца «вудзіць рыбу». Цяпер толькі дачакайся поезда, пацягні за кіёчак, да якога прывязаны кабель, вырві кальцо, і граната ўзарве тол. Прынамсі, павінна ўзарваць, як будзе на самай справе?

Тады наш атрад перажываў дзіўную паласу ўдач. І на гэты раз здорава шанцуе. Трапляецца эшалон, які ідзе на фронт. Небяспечныя лясы: Жэдненскі, Ліпнікі, Снога, Дубава — яму застаюцца ззаду, зараз ідуць адкрытыя палі, каб узабрацца на берастаўіцкую гару з самым большым у нашых краях пад'ёмам — чатырнаццаць метраў на кіламетр пуці — патрэбна інерцыя не абы-якая. Машыніст не шкадуе пары, бярэ разгон. Лёскат эшалона нарастае. З-за будкі жвава выскакваюць цьмяныя слепакі фараў. За імі, на фоне неба, бяжыць бясконцы гармонік вагонаў.

— Лёшка, упусціш, далібог! — панічна крычыць Люба.

— Не перашкаджай!

Саджуся на раллю, нагамі ўпіраюся ў баразну, дзвюма рукамі бяруся за кіёчак. Пасля ўзрывацеля граната ўзарве тол толькі праз шэсць секунд. Трэба ўлічыць хуткасць поезда і зрабіць так, каб выбух наступіў пад паравозам. Ад напружання галава ясная, думка працуе маланкава. Поезд імчыць з хуткасцю кіламетраў семдзесят на гадзіну, гэта прыблізна тысяча дзвесце метраў у хвіліну, у секунду — дваццаць. Дваццаць на шэсць — сто дваццаць. Ад аднаго тэлеграфнага слупа

Люба (Яроцкая). Здымак сучасны.

199






ЭПІТАФІІ

### ХАБАРНІКУ

Браў у жыцці я пакрыве —
Прыносілі без сведак.
Чаму ж ніхто не прынясе
Мне сёння... хоць бы кветак?

### ПЛЯТКАРУ

Ніяк не ўцямлю — што за свет!
Каму данесці я павінен,
Што кожнай ноччу мой сусед
Чарцей збірае ў дамавіне?

### ПАДХАЛІМУ

Я заслужыў на свой вянок,
Усім паведаміць я рады:
Ляжу ў начальніка ля ног
І з ім цяпер — запанібрата.

### ПЕРАСТРАХОЎШЧЫКУ

Свайго «Я» заўжды баяўся я.
І гэтая магіла — не мая.

### ПЛАГІЯТАРУ

Жыццё нялёгкае у нас,
Адна бяда, адно напасце,
Ніяк не трапіш на Парнас,
Каб эпітафію украсці.

СЫМОН БЛАТУН



— Дзіўна, ніяк не магу запомніць вашага твару.

### НЯСМАЧНАЯ КАПУСТА

*Муж есць капусту, моршчыцца і гаворыць жонцы:*

*— Нешта ты сёння капусту нясмачную зварыла.*

*Жонка пакрыўдзілася:*

*— Кінь ты прыдзірацца, я ў гэту капусту ўсю душу ўлажыла.*

*— А мяса ты палажыла?*

*— Ой, і праўдачкі, забылася.*

## МІЛЫЯ СУСЕДЗІ

*(Гумарэска)*

Жонка катэгарычна заявіла:

— Болей без тэлевізара і дня не пражыву. У Міхаловых «Рубін» стаіць, Мухіны «Нёман» купілі, а я што — на цябе павінна глядзець? Дык цікавага не шмат.

Суседка, былая медсястра, дадала:

— У наш век без тэлевізара і дзяцей выхоўваць немагчыма.

Довады, бадай што, важкія. Я крыху памуляўся, потым узяў даведку-гарантыю і на цэлы год запрогся ў крэдыт.

Не паспелі прытарабаніць велічэзную скрынку з пакупкаю, як набілася поўная хата людзей. Мілыя суседзі, і адкуль у іх тая ўвага ўзялася раптам! Сваякі, пляменнікі наведалі. Я і не ведаў, што гэтулькі радні па суседству жыве.

Усім карцела хутчэй зірнуць на экран, з вуснаў не сыходзіла адзінае пытанне:

— Ці хутка ўжо?

Спецыяліста для ўстаноўкі тэлевізара я не клікаў, тое-сёе сам кемлю ў тэхніцы. Вось, каб яшчэ не лезлі дапамагаць, а то:

— Гэты во гузік на што ўстаноўлен?

— А куды вунь тую штучку круціць?

Каб жа я мог так проста растлумачыць, а то толькі шапчу сабе пад нос ды сам сабе разважаю. А тут яшчэ жонка падганяе:

— Што ты там корпаешся, як сляпы ў торбе? Вечна ў нас не так, як у людзей.

Нарэшце скрынка падала надзею. І затарахцелі табурэткі, зарыпелі крэслы.

— Гэта будзе маё месца, — сказала суседка Сцепаніда.

— Не, я тут сяду, — упёрлася сваячка Тэкля. — Я люблю глядзець блізка, нават у кіно сяджу на першых радах.

— Матухны, гэта ж шэдэўральна! — усклікнула пляменніца Эльвіра. — Заўтра скажу свайму Жоржу, каб ні ў якую кіношку болей не цягнуў. Штодзень тут будзем глядзець. Закон!

Праціснуўшыся ўперад, яна адштурхнула старэнькую сваячку.

— Будзьце настолькі перпендыкулярны, адсуньцеся ўбок. Я люблю ў цэнтры. Нават Жорж мне не пярэчыць.

Нехта ўлез на ложак, хтосьці на стол усеўся, пад кімсьці трашчала трумо, нават з шафы ногі звешваліся.

Паказвалі нешта накшталт балета — добра не разабраў за галовамі. Да таго ж ушчэнт змарыўся. Пакуль ішлі тэлеперадачы, перасядзеў на кухні. А як суседзі разышліся, з палёгкаю ўздыхнуў:

— Нарэшце хоць адпачну.

Але жонка зноў:

— Ты, мусіць, дужэйшы будзеш, прыбяры крыху ў пакоі ды вымый падлогу. Заўтра ж сорамна будзе, як людзі прыйдуць. Бо я пад сабою ўжо ног не чую.

Падкасаўшы нагавіцы, я палез за анучаю. А ў галаве — думка: дзе ж заўтра давядзецца вечар перабыць?

*Зм. Шостак*



Без слоў.

### РАЗМОВА ЎНАЧЫ

Позна ўначы міліцыянер бачыць чалавека, які, азіраючыся, крадком прабіраецца па вуліцы.

— Грамадзянін! Што ты там нясеш у чамаданчыку?

— А я яшчэ і сам не ведаю.

### ПОМСТА

Дзве акцёркі размаўляюць аб трэцяй:

— Не магу зразумець, чаму Зося пайшла замуж за рэцэнзента, які ганіў яе ў сваіх рэцэнзіях.

— Вельмі проста: захацела адпомсціць яму.

### ЗАДАВОЛЕНА

Жонка кажа да мужа:

— Я вельмі задаволена візітам да Мікалаюкоў: пераканалася, што такога балагану, як у іх, я яшчэ нідзе не бачыла.

### ПРЫЧЫНА

Настаўніца да вучня:

— Янка, чаму ты спазніўся на ўрок?

— Бо ўрок пачаўся раней, чым я прыйшоў у клас!



Тапелец і за ўласную жонку хапаецца.

### ЗАСТРАХАВАЎСЯ

— Навошта ты падшываеш у папку копіі сваіх лістоў да маці?

— Разумееш, у мяне розныя праверкі бываюць. А яны ж могуць абвінаваціць у бяздушнасці і не чулых адносінах да бацькоў.

### НАВОШТА

— Слухайце, вам трэба пераходзіць на новыя фасоны, — сказалі дырэктару фабрыкі.

— Навошта, — здзівіўся той, — гэтыя ж фасоны выпрабаваныя: мы іх ужо дваццаць год выпускаем.

### ПЕРАГНУЛІ ПАЛКУ...

У лесе мядзведзь ломіць бярозку. Ідзе асёл.

— Ты што робіш?

— Хачу выламаць палку.

— Прымі і мяне ў кампанію.

Пачалі выламваць разам. Адкуль ні вазьміся — баран.

— Эх, харошая кампанія! Можна далучыцца?

Прынялі і яго ў кампанію. У кампаніі работа спорыцца.

Выламалі палку.

А разыходзіцца не хочацца: вельмі ж харошая кампанія. Тут асёл і скеміў.

— Давайце, братцы, сагнём гэту палку ў дугу!

— Што ў дугу, — крычыць баран — у кола!

— Якое там кола, — гаворыць мядзведзь, — у спіраль.

І пачалі ўсёй кампаніяй гнуць палку. А палка была з двума канцамі. Выслізнула, разагнулася ды як трэсне: барана — уздоўж, мядзведзя — упоперак, а асла ўжо мядзведзь... уручную, так сказаць, за кампанію.

А якая ж была харошая кампанія... пакуль не перагнулі палку.



— Чаму ты не спіш? На сходзе крытыкавалі?

— Не, я там выспаўся...

## УСЯЧЫНА



*І яны чакаюць вясну.*

*Кур'ёзы*

### ВЕТЛІВАСЦЬ

На пачатку аўтастрады на выспе Лонг-Айленд, каля Нью-Йорка, шафёраў-аматараў хуткай язды — сустракае такое ветлівае паведамленне:

«Тэлеграфныя слупы наносяць пашкоджанні машынам толькі пры самаабароне».

### ДЗЕЛАВАЯ МІМІКА

**У Чыкага адкрыўся інстытут «мімікі дзелавога чалавека». У праспекце гэтай незвычайнай школы гаворыцца: «У нас вы навучыцеся, як трэба наморшчыць твар, каб выглядаць сумленным чалавекам».**

### ШЧАСЛІВЫЯ ЖОНКІ

**Амерыканскі псіхолаг доктар Хачысан заявіў, што, на яго думку, філатэлісты — найлепшыя мужы. Для калекцыяніравання патрэбны цярпенне, уважлівасць, спакойны характар, гэта значыць усё, што з'яўляецца асаблівасцю добрых спадарожнікаў жыцця.**

### АДРАСАТ ВЫБЫЎ

Выдавецтва Гарвардскага ўніверсітэта паслала свайму былому падпісчыку, цяпер прэзідэнту ЗША, пісьмо на яго папярэдні адрас у Тэхас. Праз нейкі час пісьмо вярнулася назад з зацемкай: «Адрасат выбыў у невядомым напрамку».

### ШТО ГЭТА?

Падумай, а калі фантазія падвядзе цябе, тады скарыстай з развязкі, якую знойдзеш унутры нумара.



**АКЕНЦА ДУМАК**

Што ты схаваеш, то прапала, што ты аддаў, то тваё.

*Шота Руставелі (XII ст.)*
*— грузінскі паэт.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе *Кацярыны Піўко* з Беластока змяшчаем песню пад загалоўкам:

## НАПИШИ МНЕ, МАМА, В ЕГИПЕТ

*Жар пустыни мне щеки щиплет*
*И песок забивает рот.*
*Напиши мне, мама, в Египет,*
*Как там Волга моя живет.*

*Не спешу я пока обратно,*
*Чтобы память о нас хранил*
*Этот желтый и непонятный*
*Непохожий на Волгу Нил.*

*Будет море, — мы это знаем, —*
*Будет небо в морской пыли...*
*И летят сюда вслед за нами*
*Наши русские журавли.*

*Мне бы лучше в Сибирь путевку,*
*Но учти, когда выйдет срок,*
*Вдруг на Марс начнется вербовка, —*
*Я поехал бы на годок.*

*Здесь как будто весь воздух выпит.*
*Нету дождика третий год...*
*Напиши мне, мама, в Египет,*
*Как там Волга моя живет.*